*Рэха нашых публікацый*

# *Салігорск:* Марыю Мацюкевіч пакідаюць у спакоі?

Нядаўна на кватэру аўтара гэтых радкоў патэлефанавала настаўніца беларускай мовы і літаратуры СШ № 11 г.Салігорска, кіраўніца Салігорскай філіі ТБМ імя Ф.Скарыны Марыя Мацюкевіч. Яна паведаміла, што мае на руках афіцыйны ліст з управы адукацыі Менскага аблвыканкама, падпісаны намеснікам начальніка гэтай управы Георгіем Ніканавічам. Дакумент, па словах Марыі Мацюкевіч, сведчыць, што нарэшце праслед настаўніцы за яе празмерную любоў да гістарычнай нацыянальнай сімволікі спынены. Педагог аднаўленая ў школе ў сваіх правах. Спынена і спроба дырэктара школы № 11 У.Кашталяна паўплываць на змену беларускамоўнага статуса школы на расійскамоўны.

Марыя Сцяпанаўна выказала ўдзячнасць "Нашаму слову" ды іншым друкаваным органам, якія разам з "НС" паўсталі на абарону настаўніцы. Вельмі ўдзячная Марыя Сцяпанаўна і дэпутату ВС Аляксандру Дабравольскаму ды нацыянальна свядомым чыноўнікам з абласной управы адукацыі, якія ў адказны момант не пакінулі педагога ў бядзе, не дазволілі русіфікатарам яшчэ раз паздзекавацца з беларускай мовы ў той школе, дзе выкладае спадарыня Мацюкевіч.

Нагадаю чытачам, што, пачынаючы з кастрычніка 1995-га, калі на сваім адкрытым уроку беларускай літаратуры Марыя Сцяпанаўна скарыстала бел-чырвона-белы сцяжок, тлумачачы вучням 7 "Б" класа купалаўскі верш "Прарок", і да нядаўняга часу гэтую настаўніцу падвяргалі самым што ні ёсць непрыхаваным цкаванням па палітычных матывах. За той самы ўрок з яе патрабавалі пісаць "тлумачальную", а калі вучні з 7 "Б" сталі рэгулярна зрываць і нішчыць вывешаны ў кабінеце беларускай мовы і літаратуры паслярэферэндумаўскі герб "з каласкамі" (такое паўтаралася некалькі разоў) ды на месца знішчанага "нова-старога" сімвала мацаваць "Пагоню", Марыю Мацюкевіч адхілілі ад загадвання кабінетам. У гарана ёй прапанавалі выбіраць між палітыкай і педагогікай. І ў міліцыі палічылі патрэбным сурова папярэдзіць аб адказнасці за публічнае грэбаванне "ўсенародна" ўхваленымі сімваламі.

Марыя Сцяпанаўна ў адзін з момантаў злегла ў мясцовую бальніцу — не вытрымала сэрца. І гэта зразумела: яшчэ ўчора яе, настаўніцу вышэйшай катэгорыі, начальства хваліла за выхаванне ў дзецях пачуцця патрыятызму, а сёння за тое ж самае ўжо ганілі, папікаючы, быццам бы з дзяцей яна зрабіла маленькіх нацыяналістаў.

І ўсім гэтым цкавальнікам няўцям, што за час, калі быў прыняты Закон аб мовах у Беларускай ССР і да мінулагодняга рэферэндуму, вучні паспелі прызнаць "сваімі" бел-чырвона-белы сцяг і "Пагоню", што яны знаёмыя з сапраўднай, а не кан'юнктурнай гісторыяй Айчыны. Нарэшце, яны лічаць сваёй і беларускую мову, і гэта ўжо не зруйнаваць у іх душах ніякімі галасаваннямі дарослых людзей.

Вось чаму па-свойму пачалі пратэставаць супраць знявагі нацыянальнай мовы і сімволікі, стварылі патаемна нешта накшталт "Маладой гвардыі", толькі з папраўкамі на эпоху, геаграфію і сімволіку. "Наша слова" ў свой час змясціла некалькі матэрыялаў пра гэтую прыкрую і адначасова гераічную на сваім, зразумела, узроўні, гісторыю: "Данос за беларускасць" (№ 3 за 17 студзеня 1996 г.), "Пра салігорскую Рагнеду і пра лом, супраць якога няма прыёму" (№ 16 за 17 красавіка 1996 г.), "Салігорск: "грамадзянская вайна працягваецца" (№ 22 за 30 траўня 1996 г.).

Друкаваны орган Беларускага Хельсінкскага камітэта — штомесячнік **"Круг"** у сваім другім сёлетнім выпуску таксама абароне Марыі Мацюкевіч і яе вучняў ад шавіністаў прысвяціў цэлую газетную старонку, а потым гэтыя матэрыялы (ужо зусім нядаўна) перадрукавала газета Беларускай канфедэрацыі дэмакратычных прафсаюзаў — **"Свабодныя прафсаюзы"**. Некалькі вострых рэпартажаў прагучала ў эфіры Беларускай службы **Радыё Свабода**...

А зараз я прывяду запісаны на дыктафон каментар ужо знаёмага чытачам аднаго з кіраўнікоў управы адукацыі Менаблвыканкама Георгія Ніканавіча:

— Мацюкевіч — нядрэнная настаўніца. І вельмі многа працуе над тым, каб даваць добрыя ўрокі і ставіць на патрэбны ўзровень выкладанне беларускай мовы і літаратуры. Выкладаючы тэму, якая была звязана з гісторыяй Беларусі, яна выкарыстоўвала герб і сцяг таго часу — "Пагоню" і бел-чырвона-белы сцяг. Як мы пагледзелі, тут ніякіх парушэнняў з яе боку не было. Ва ўправе адукацыі на гэты конт думка адназначная: названыя сімвалы на ўроку скарыстаныя правільна. Канешне, там, дзе належыць, павінен размяшчацца ў кабінеце беларускай мовы і літаратуры і прыняты рэферэндумам новы герб. Мы пра гэта сказалі Марыі Сцяпанаўне, і яна з тым пагадзілася. Адносна ж таго непаразумення, калі быў гэты герб разбіты, ну дык настаўніца заявіла: дзеці герб разбілі выпадкова. Мацюкевіч мы пакідаем загадванне яе кабінетам. Мы ўказалі дырэктару СШ № 11 Каштальяну і аддзелу адукацыі Салігорскага гарвыканкама, каб ніякіх пераўтварэнняў гэтага памяшкання ў кабінет расійскай мовы і літаратуры не праводзілі.

Што да мовы выкладання ў згаданай школе, то мы яе дырэктару і аддзелу адукацыі ўказалі: бацькам, якія пажадаюць такое ўчыніць, трэба абавязкова растлумачыць усе акалічнасці і наступствы, звязаныя з пераводам вучняў з мовы беларускай на мову расійскую ў выкладанні прадметаў. Ясна, што ў параўнанні з тым, якімі аб'ёмамі ідзе засваенне расійскай мовы ў расійскамоўных школах, вучні ў беларускамоўнай СШ № 11 яўна адсталі. І калі займацца ўсур'ёз гэтай справай, спатрэбяцца працяглыя дадатковыя заняткі. Ці захочуць гэтага дзеці?.. Ці асіляць яны перагрузку?

Хацелася б спадзявацца, што нарэшце Марыю Мацюкевіч і беларускую мову ў адзінаццатай школе г.Салігорска пакінуць у спакоі. Спадзяёмся, дарослым хопіць педагагічнага таленту паважаць нацыянальныя пачуцці ды ўжо выхаваныя ў дзіцячых душах перакананні (я ўжо не кажу пра тое, каб пахваліць гэтых вучняў за сапраўдны патрыятызм).

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА,**
**сакратар кантрольнай камісіі Беларускага Хельсінкскага камітэта, карэспандэнт "Нашага слова".**

# "Нам патрэбная Беларусь"

*Усё большую вядомасць у краіне набывае дзейнасць арганізацыі "Беларуская перспектыва". Каб пазнаёміць з ёю чытачоў, наш карэспандэнт сустрэўся з прэс-сакратаром і сябрам Савета заснавальнікаў "Беларускай перспектывы" Валянцінай Трыгубовіч.*

**— Чым была выкліканая неабходнасць стварэння "Беларускай перспектывы"?**

— "Беларуская перспектыва" як арганізацыя паўстала дзеля тварэння грамадзянскай супольнасці, дзеля таго, каб дапамагчы людзям нашай раз'яднанай, на жаль, нацыі ўсвядоміць свае агульныя інтарэсы і навучыцца гуртавацца дзеля іх абароны. Арганізацыя з'яўляецца надпартыйнай, непалітычнай. Ініцыятарамі яе стварэння выступілі былыя актывісты Беларускага Народнага Фронту, якія дзеля гэтай справы пакінулі кіруючыя пасады ў БНФ, хоць засталіся яе шараговымі сябрамі. Каб дасягнуць нашай мэты — годнага жыцця людзей у незалежнай Беларусі, патрэбна праца вялікай колькасці людзей і праца ў розных кірунках. Дзейнасць арганізацыі, якая хоча мець уплыў на грамадства, мусіць закрануць самыя шырокія слаі гэтага грамадства. Пакуль адны мітынгуюць, іншыя павінны вучыць дзяцей, займацца праблемамі эканомікі, экалогіі і культуры. Беларуская ідэя, якой усе мы служым, мае шмат вымярэнняў і яе рэалізацыя патрабуе не столькі яднання пад адзіным кіраўніцтвам, колькі дзейнасці ў агульным кірунку, якой будуць займацца людзі, маючыя адпаведныя здольнасці, схільнасці і досвед.

Каля года таму была створаная ініцыятыўная група, у якую ўвайшлі Вера Чуйко, Валянцін Голубеў, Уладзімір Анцулевіч, Віктар Івашкевіч і я. Наша ініцыятыва набыла выгляд грамадскага навукова-аналітычнага цэнтра "Беларуская перспектыва", устаноўчы сход якога адбыўся 14 верасня 1995 года. А 10 лістапада таго ж года Цэнтр атрымаў пасведчанне аб рэгістрацыі і пачаў дзейнічаць.

**— Што гэта за арганізацыя?**

— Непалітычная і адкрытая для супрацоўніцтва з усімі сіламі, якія стаяць на грунце беларускай дзяржаўнасці, пільнуюць законаў і Канстытуцыі краіны, выступаюць за рынкавую эканоміку, за правы чалавека ды іншыя дэмакратычныя каштоўнасці.

**— Якія мэты ставіць перад сабою "Беларуская перспектыва"?**

— Гэта відаць ужо з назвы — пабудову ў перспектыве нармальнага, цывілізаванага грамадства. А бліжэйшая наша задача — тварэнне грамадскай супольнасці. Мы маем намер супрацоўніцтва з грамадскімі, навуковымі, дабрачыннымі арганізацыямі як у краі, так і за мяжою, з усімі, хто намагаецца вырашыць сацыяльныя, эканамічныя ды іншыя праблемы нашага грамадства.

**— Якім чынам будуць ажыццяўляцца планы Цэнтра?**

— Ім кіруе Савет заснавальнікаў. Зважаючы на досвед іншых арганізацый, у яго склад былі ўключаны людзі, абазнаныя ў самых розных сферах жыцця: прафсаюзны лідэр, матэматык, эканаміст, гісторык, геолаг, аграрнік, юрыст, прадпрымальнік... Але мы не збіраемся агулам развязваць нейкую адну праблему. Кожны з сяброў Савета заснавальнікаў можа і мусіць курыраваць нейкую з праграм Цэнтра ў сферы сваёй прафесійнай дзейнасці або асабістых інтарэсаў. Такім чынам, мы ўжо правялі некалькі акцыяў — канферэнцыі "Праблемы прыцягнення замежных інвестыцый у эканоміку постсацыялістычных краін Усходняй Еўропы", "Праблемы рынкавых рэформаў сельскай гаспадаркі ў краінах Усходняй Еўропы" ды іншыя. Дзейнічае створаны пры Цэнтры фонд "Гальшанскі замак".

**— У спісе кіраўнікоў "Беларускай перспектывы" побач стаяць прозвішчы людзей, вядомых сваёй дзейнасцю ў вельмі непадобных арганізацыях: былога актывіста ТБМ Валянціна Голубева і былога ўдзельніка прэзідэнцкай каманды Аляксандра Фядуты, былога лідэра БНФ Віктара Івашкевіча і старшыні Камітэта абароны міру Івана Кірыенкі...**

— Усе яны людзі дастаткова вядомыя, уплывовыя ў грамадстве і занепакоеныя беларускай справай, беларускай дзяржаўнасцю. Той жа Фядута — сёння дзяржаўнік больш, чым іншыя адраджэнцы, якія шмат гадоў лямантуюць, але нічога дагэтуль не зрабілі.

**— На якія сродкі ажыццяўляюцца вашыя праекты?**

— Пытанне фінансавання Цэнтра застаецца адкрытым, бо ўласных сродкаў мы не маем. З праектамі, распрацаванымі "Беларускай перспектывай", мы звяртаемся ў розныя фонды. Тыя з нашых ініцыятыў, пад якія выдаюцца гранты, рэалізуюцца. Пакуль што ўсе ажыццяўлёныя намі праекты фінансаваліся Фондам Сораса.

Мы не займаемся размеркаваннем чужых грошай на падтрымку чужых праграм. Таму часам расчароўваюцца людзі, якія прыходзяць да нас з пытаннем "Што вы можаце нам даць?". Адзінае, што мы даём,— юрыдычны дах. Гэта пазбавіць ініцыятыўных людзей патрэбы рэгістравацца, пісаць статут уласнай арганізацыі, пераадольваць бюракратычныя перашкоды. Сваю сацыяльную праграму яны могуць здзяйсняць пад нашым дахам.

**— Гэта значыць, што "Беларуская перспектыва" — такая ж арганізацыя дахавага тыпу, як "Аб'яднаны шлях" ці нядаўна створаная В.Вячоркам "Супольнасць", пра якія мы ўжо пісалі?**

— Мне няшмат вядома пра дзейнасць фонду "Супольнасць", была толькі на канферэнцыі выдаўцоў незалежнай прэсы, арганізаванай ім разам з Беларускай асацыяцыяй журналістаў у сакавіку гэтага года. А "Аб'яднаны шлях" — гэта беларуская філія аналагічнай амерыканскай арганізацыі, якая мае адтуль фінансаванне і займаецца падтрымкай дэмакратыі наогул.

**— Вам патрэбна не проста дэмакратыя?**

— Нам патрэбная незалежная, дэмакратычная, прававая Беларусь. Але пабудова беларускага дома — працэс даўгі, а можа і вечны, які патрабуе шмат намаганняў.

**— Якія праекты "Беларускай перспектывы" адлюстроўваюць гэтыя намаганні?**

— Толькі ў сферы сродкаў масавай інфармацыі Цэнтрам стварана некалькі праектаў спрыяння і развіцця незалежных сродкаў масавай інфармацыі, вядзецца стварэнне сеткі распаўсюджвання незалежнай прэсы. Гэта вельмі важна ўжо таму, што наперадзе ў нас давыбары і рэферэндумы, у час падрыхтоўкі да якіх могуць быць перакрытыя шляхі распаўсюджвання непатрэбнай уладам інфармацыі. Цяпер мы чакаем атрымання грантаў пад гэтыя праекты — семінары, курсы, канферэнцыі...

**— Сярод людзей, рашэнні якіх вызначаюць кірункі дзейнасці Цэнтра, тыя, для якіх беларуская мова ёсць безумоўным прыярытэтам, складаюць, на мой погляд, меншасць. Ці не ўбачым мы ў перспектыве свабодную, незалежную, заможную Беларусь, але без беларускай мовы?**

— Ваша ўражанне памылковае. Большасць нашага Савета заснавальнікаў якраз беларускамоўная, але для нас важней тое, што чалавек робіць, чым тое, як ён гаворыць. За гады сваёй грамадскай дзейнасці я не аднойчы была сведкам імгненнай моўнай мімікрыі, таму моўнасць чалавека перастала для мяне быць лакмусавай паперкай сяброўства ці суперніцтва. Мне важна, наколькі жыццёвыя перакананні чалавека супадаюць з маімі. Калі ён патрыёт сваёй краіны, працуе на дабро яе людзей, дэмакрат і маральная асоба, ён пры спрыяльных абставінах незаўважна і натуральна сам пяройдзе на беларускую мову. А вось якім чынам зрабіць беларускамоўным усё грамадства, пытанне больш складанае. Нацыянальная культура стане першаснай толькі тады, калі яна будзе падтрыманая дзяржавай. А дзеля таго патрэбна, каб да ўлады прыйшлі людзі з беларускім менталітэтам і каб існавала моцная грамадзянская супольнасць. Якраз гэтаму і мае спрыяць наша дзейнасць.

**Запісаў У.ПАНАДА.**

# Суд над украінскімі грамадзянамі адкладзены

21 жніўня да будынка Менскага гарадскога суда зранку сцягнуўся вялікі натоўп, таму праз нейкі час лёсвіцу заняў кардон міліцыянтаў. Але ніякіх эксцэсаў не адбывалася. Хіба што толькі сваякі ўкраінцаў, арыштаваных па абвінавачванні ў масавых беспарадках 26 красавіка, з голасным плачам патрабавалі дазволіць ім хаця б падысці да сталёвай клеткі, у якую былі памешчаныя падсудныя. Але паколькі частка з іх была выкліканая на суд у якасці сведкаў, ім прыйшлося пакінуць залу адразу на пачатку працэсу.

Як і чакалася, некалькі падсудных — У.Салавей, А.Шаптыцкі і А.Міранюк,— абвясцілі, што адказваць на пытанні суда будуць на ўкраінскай мове, але перакладчыка патрабаваць не сталі, патлумачыўшы, што разумеюць расійскую мову, на якой вядзецца працэс. Усё ж перакладчык быў прызначаны, і на заданае праз яго пытанне аб даверу ці недаверу да суддзі адказ усіх сямёх падсудных быў аднолькавы: цяжка казаць аб даверу да чалавека, якога раней бачыць не даводзілася, але дзе ўзяць іншага? Праўда, У.Салавей паведаміў, што быў блізка пазнаёміцца з суддзёй П.Каршуновічам і задаў некалькі пытанняў наконт асобы апошняга,— вядома, той адказваць адмовіўся. Папрасіў У.Салавей і дазволу ўслых прачытаць малітву, каб суд прайшоў згодна з традыцыямі хрысціянскай міласэрнасці,— не пагадзіўся П.Каршуновіч і на гэта.

Як вядома, справа ўкраінскіх грамадзян павінна была разглядацца судом Цэнтральнага раёна г.Менска, але слухацца ў больш вялікай зале гарадскога суда, каб даць магчымасць прысутнічаць на ім прадстаўнікам прэсы, аб чым раней падалі хадайніцтва адвакаты ўкраінцаў Н.Дударава, У.Калеснікаў і А.Скаруліс. Але пракурор Я.Бабкіна адразу абвясціла: справа такога ўзроўню не можа разглядацца раённым судом, бо па падсуднасці матэрыялы па артыкуле 186 п.3 КК не знаходзяцца ў ягонай кампетэнцыі. Яна адразу падала хадайніцтва аб перадачы справы ў гарадскі суд, нягледзячы на пратэст адвакатаў, якія выказалі занепакоенасць тым, што, пайшоўшы далей па судовых інстанцыях, справа можа затрымацца па "тэхнічных падставах" ці наогул вярнуцца на даследаванне, што падоўжыць тэрмін знаходжання ў СІЗО украінскіх грамадзян, сярод якіх ёсць і цяжка хворыя.

Нарада суда па хадайніцтву пракурора цягнулася дзве гадзіны, хаця раіўся П.Каршуновіч, відавочна, з самім сабой — працэс ішоў без народных засядальнікаў. За гэты час дэпутат Вярхоўнай Рады Украіны А.Вітовіч, які прыехаў на працэс, паведаміў журналістам, што напярэдадні было амаль вырашана пытанне расійскім і чачэнскім бакамі аб магчымасці абмену ўкраінцаў на ваеннапалонных расійскіх федэральных войск. А.Вітовіч пацвердзіў, што ўсе перашкоды на апошніх перамовах па гэтым пытанні вырашыліся, і зараз апошні крок — за Прэзідэнтам Беларусі.

У такіх абставінах рашэнне суддзі П.Каршуновіча аб задавальненні хадайніцтва пракурора і перадачы справы ў гарадскі суд можна ўспрыняць, як жаданне адцягнуць час і дачакацца абмену. Але верагодны і разлік на тое, што перадача справы ў гарсуд дасць магчымасць замарудзіць яе, вымусіўшы ўкраінцаў правесці ў СІЗО яшчэ шмат часу.

**Язэп СІНІЦКІ.**

# Душа на рацэ часу

*Гутаркі з Янкам Брылём*



**— Іван Антонавіч, ці залежыце Вы ў сваёй пісьменніцкай працы ад настрою, або, як звычайна кажуць, ад натхнення? І яшчэ: у якім рэжыме Вы працуеце — урыўкамі або доўгімі часінамі, ранкамі ці вечарамі?**

— Пытанне вельмі капрызнае. Я не разумею, калі кажуць: "Ні дня без радка" або "Я дзве старонкі кожны дзень павінен зрабіць". Калі ёсць настрой, то чаму аднудзве старонкі? А калі няма настрою, то адкуль узяць гэтыя старонкі? Хаця, скажам, Леў Талстой пісаў: "Я плюю на вдохновение. Я сажусь и работаю. И оно приходит". Я рад, калі мне працуецца з сямі да дванаццаці раніцы. Што да мяне, то я дагэтуль працую ўрыўкамі, адзін раз з больш прасветленым, другі раз з менш прасветленым настроем. Мне, як малафармісту, аўтару пераважна апавяданняў і мініяцюр, на кожны твор трэба пасобку настройвацца. Я некалі невялікае — на тры старонкі — апавяданне "Memento mori" ў тры прыёмы пісаў. У мяне няма значнага вопыту, як выцягваць даўжэйшыя рэчы — як баразну, калі ідзеш за плугам, ці як валун з зямлі. Час, як вядома, у нас такі, што цяжка знайсці адпаведны настрой, а тым больш спакой. Працытую яшчэ аднаго класіка — Твардоўскага: "Писатель должен иметь запас покоя". Цяпер мне добра працуецца на лецішчы, у цішыні такой лясной над Нёманам. Там і часу, і спакою хапае, але не заўсёды бывае адпаведны настрой. Апошнія дзве кніжкі — "Сёння і памяць" і "На сцежцы дзеці" і публікацыі ў "Полымі" менавіта напісаны ў маім наднёманскім Крынічным.

**— Крынічнае блізка ад Загора?**

— Блізка, за шэсць кіламетраў.

**— Адчуваецца, Іван Антонавіч, што прырода для Вас вельмі многа значыць. Аб гэтым гавораць Вашы творы. Памятаецца, у адным з іх Вы зрабілі такое прызнанне: "Калі я апісваю прыроду, гэта не капіраванне, а радасць, што жыву, што бачу". Гэта адчуванні гараджаніна?**

— Я не ведаю, што было б са мной, каб я заставаўся гарадскім жыхаром, нарадзіўшыся ў Адэсе. Мне было пяць гадоў, як мяне прывезлі ў вёску, і гэта стала такой зачараванасцю, што дагэтуль памятаю. Раптам адчуеш пах свежага сена з воза, той самы пах, які ты адчуў тады, першы раз; ці ўспомніцца, як памагаў маці вечарам капаць бульбу: ты яе падбіраеш і вось яна ў цябе ў руцэ і нават, калі забудзешся, зямля з яе ў рот пападзе. Ёсць свая мудрасць у тым, што кожны кулік сваё балота хваліць. Не абавязкова жыць у нейкай пышнай прыродзе, нарадзіцца ў выключна прыгожай мясцовасці. Калі браць толькі Беларусь, то колькі я ўжо адкрыццяў меў у сваім жыцці і яшчэ колькі буду іх мець. Я добра вывучыў і абжыў Нарачанскія азёры — і на лодцы з вёсламі, і на маторцы, і з рукзаком вакол гэтых азёр многа хадзіў. Многа было адкрыццяў, калі з Адамовічам і Калеснікам збіралі матэрыял для кнігі "Я — з вогненнай вёскі". Дагэтуль бачу дубовы лес над Убарцю — прыгажосць такую, ці непраходныя лясы з балотамі ў Расонскім раёне, ці раскошныя Палескія раўніны з працьмай буслоў, дзе па дзве буслянкі на адной хаце ў вёсцы. Але я не ў крыўдзе на сваю вёску: яна ў нас палявая, яна ў нас балоцістая. На прадвесні і ўвосень гэта не проста балота, гэта сіні глей — ідуць і гразнуць каровы, вымя валочыцца па гразі. Лесу блізка няма — адны шпакі і перапёлкі, салаўя ўпершыню пачуў дзесьці ў 17 гадоў, як ездзілі лазу рэзаць... Але тут і Скарыну можна згадаць: ласку найбольшую маюць да тых мясцін, дзе нарадзіліся. Якая ні была б прырода сціплая, а яна вельмі многа дае для пазнання і захаплення.

У сваім Крынічным жыву з 1978 года і ніяк не нацешуся. Мне здаецца — і тое самае, і не тое самае. Часам да жонкі падыду, загавару пра журавоў. А яна адразу: "Пісаў, пісаў!.." А я ўсё ж не магу не хвалявацца. Курлыканне журавоў мяне можа спыніць. Я буду стаяць і слухаць. На жаль, цяпер няма вечнага спадарожніка нашага ў маленстве і ў маладосці, і тады, як пасвілі, і тады, як зямлю аралі,— жаўранка няма. Дахімічыліся. Ідзеш па цудоўным збожжы сцежкай і не чуеш жаўранка. Калі яны зноў запяюць? Я мяркую, што запяюць на Панямонні нашым: не было ж буслоў, а цяпер іх шмат — з'явіліся жабы, з'явіліся і буслы.

Пазнанне прыроды пачынаецца з усяго. Памятаю, як пасля вяртання з Адэсы ў Загора прыходзілі наведаць маму сваячкі і суседкі і прыносілі ў падарунак курэй — стракатых, з чырвонымі грабянямі. Гэта мяне так уразіла, што я доўга прыглядаўся да іх, паклаўшыся дзеля зручнасці на падлогу. Таксама як цяга да гукаў, як цяга да песні, як цяга да слова, змалку была цяга і да прыроды. Пасля прыйшлося бачыць яе, самую розную, у падарожжах па Еўропе з заездам у Турцыю, Італію, Грэцыю, у падарожжах па Індыі, у размаху такіх рэк, як Енісей, Волга, Амур, у палётах над акіянам,— і ўсюды яна давала вельмі многа захаплення і харчу такога душэўнага. І адчуванне гэтай красы жыве ў мяне і без яго не было б нічога.

**— Іван Антонавіч, я ведаю таксама, што Вы — вялікі кнігалюб. І ў гэтым нічога дзіўнага няма, бо інакш Вы не сталі б у літаратуры Янкам Брылём. Мяне глыбока ўразіла Ваша мініяцюра "Служэнне" — пра чалавека, які, паміраючы, казаў, што найбольш яму шкада развітвацца з прыродай. А Вы зазначылі: "А мне было б з кнігай. Выбліснуць з невядомасці, захоплена разгарнуць кнігу сусветнай літаратуры і зноў ісці ў нябыт". Дык што ж значаць у Вашым жыцці кнігі?**

— Ведаеце, у нас звычайна пытаюць: "Якое ваша хобі?" У мяне няма хобі, у мяне з маленства вялікая цяга да чытання, да кніг. Я і цяпер параўнаўча многа чытаю — магу зачытацца на цэлы дзень. І тут наша скрыжаванне беларускае — гістарычнае скрыжаванне ўплываў, змены ўлады, якія пры ўсіх сваіх адмоўных якасцях мелі нешта станоўчае. Змалку я не абмяжоўваўся нейкім колам у чытанні, скажам, толькі сваім, нацыянальным, а чытаў на чатырох мовах — расійскай, польскай, беларускай і украінскай. Праз іх сусветную літаратуру пазнаваў. Польская кніга была ў школе, беларускую кнігу атрымліваў з Вільні. За палякамі беларусы трымаліся адзін аднаго: хто вучыўся ў гімназіі ці ва універсітэце, думаў пра таго, хто не можа вучыцца. Мне прывозілі беларускія віленскія выданні бясплатна, тым больш, што хлопцы ведалі: я не толькі чытаю, але і пішу. Украінскія кнігі адкуль браў? За два кіламетры ад майго Загора ёсць цікавая вёска Трошчыцы, скуль чалавек дзесяць у міжваенны час закончылі Беларускую навагрудскую гімназію, а чалавек шэсць — універсітэт у Празе. Адзін з іх, Леў Гарошка, будучы архімандрыт, трымаў у бацькоў добрую бібліятэку. Я сябраваў з яго малодшым братам і браў у яго тыя кнігі, сярод якіх шмат было ўкраінскіх. Так што заходнеўкраінская і класічная ўкраінская літаратуры мне знаёмы з маленства. Украінцаў чытаю толькі ў арыгінале, сабраў ладную бібліятэчку украінскіх пісьменнікаў. Што да расійскай кнігі, то ў наваколльных вёсках іх было шмат — засталіся ад прыфрантавой паласы ў Першую сусветную вайну. Лічу, што чытанне мае тое вялікае значэнне, што акумулюешся, заражаешся братэрствам якімсьці з тым, хто табе ўпадабаўся з пісьменнікаў, і гэта наводзіць на добрыя думкі. У Чорнага ёсць характэрнае выказванне: "Тая кніга добрая, якая ўзбівае на добрыя думкі". У маёй рабоце такая асаблівасць ёсць: часам чытаю і не магу чытаць — адрываюся ад кнігі і адрываюся. Гэта не значыць, што адтуль нешта бяру, але чытанне ўзварушвае ва мне сваё. Без чытання, без засваення чужога духоўнага вопыту няма і не можа быць прагрэсу. Калі ж вяртацца да думкі, каму чаго бывае шкада перад смерцю, то яшчэ Леў Талстой гаварыў: "Пусть пропадёт к чёрту вся наша культура, вот только музыку жалко". Яму шкада было музыкі. Мне таксама шкада музыкі, але і песні шкада, і музыкі слова шкада,— усяго таго, што варта жыцця на зямлі, варта чалавечых пакут. Як у народзе кажуць: "Божа, Божа, не так нажывешся, як напакутуешся".

**— Крытыкі шмат разважаюць пра творчыя ўплывы адных мастакоў слова на іншых. А што Вы ўзялі ад сваіх любімых пісьменнікаў, спасцігаючы іх майстэрства і філасофію?**

— Растлумачыць на прыкладзе ўласнай творчасці чужы ўплыў немагчыма. Гэта ўсё роўна, што растлумачыць, колькі ўсяго ты навучыўся ў іншых. А што яны мне далі? Усё жыццё далі! Добрая літаратура ўсё жыццё дае. Найбольшы ўплыў на мяне зрабілі Талстой і Чэхаў. Талстой цэльнасцю сваёй натуры. Я не разумею дзялення Талстога на мастака і філасофа. Ленін яго страшэнна прынізіў, назваўшы "зеркалом русской революции". Талстой — люстра жыцця на зямлі, а яго творчасць звузілі да люстра рэвалюцыі. Калісьці стары Федзін гаварыў, што калі чалавек паляціць на Марс і ў яго будуць пытацца, адкуль ён, то можна адказаць двума словамі: Зямля і Талстой. Або возьмем трыумфальнае шэсце Чэхава па зямлі, калі дзе-небудзь у Індыі перад тысячамі слухачоў у белых апратках цябе просяць расказаць пра яго. Гэта нават не слава, а веданне ўсімі людзьмі такіх волатаў духу.

Не многія пісьменнікі перачытваюцца. Я ўжо пісаў, як Караткевіч, перачытваючы "Хаджы-Мурата" Талстога, прыйшоў ноччу плачучы да мяне і пачаў мне чытаць адтуль урывак. Захліпаецца і кажа: "Колькі ім, маскалям, можна дараваць за вось гэты раздзельчык". Я таксама некалькі разоў перачытваў Хаджы-Мурата, тройчы "Вайну і мір", двойчы — Герцэна і Сервантэса і шмат разоў аповесці і апавяданні Чэхава, пісьмы яго. З беларускіх пісьменнікаў на мяне такі харошы ўплыў зрабілі апавяданні Цёткі. У адрозненне ад Усходняй Беларусі мы не былі пазбаўлены ад Гарэцкага і Гаруна. Мы геаграфію вывучалі па Смолічу, граматыку — па Тарашкевічу. Я магу і Гаруна цытаваць цяпер, і Гарэцкага прыгадваць. Сардэчная любоў змалку да Багдановіча. А калі гаварыць пра сімвалы, то Багдановіч якраз і ёсць сімвал агульналюдскасці, высакародства чалавечага. Змалку люблю Кацюбінскага і Шаўчэнку. Апошні не толькі чытаўся, але і спяваўся. Тое самае можна сказаць і пра палякаў: Міцкевіч, у меншай меры Славацкі. Люблю Пруса, прозу Канапніцкай, з замілаваннем успамінаю яе лепшыя рэчы — "Дым" і "Наша шкапа". Люблю творчасць Ажэшкі і дзесьці з агаворкамі Сянкевіча. Не прымаю яго чорны нацыяналізм у рамане "Агнём і мячом". Калісьці ў Кракаве на канферэнцыі мяне спыталі, як я стаўлюся да гэтага твора Сянкевіча. Я адказаў: "Так, як вы ставіцеся да "Тараса Бульбы" Гогаля.

**— Я заўважыла, што да свайго звання народнага пісьменніка Вы ставіцеся стрымана, калі не сказаць іранічна. А чаму?**

— Я ніколі сур'ёзна не думаю ў адносінах да сябе пра званне народнага пісьменніка. Ва ўсякім выпадку, я не прасіў, каб мне яго давалі. Гэта настолькі ўмоўна, што аднойчы я сказаў аднаму літаратару, які горача жадаў атрымаць гэта званне: "Каб можна было, я б з прыемнасцю табе сваё аддаў". І ўлічыце, гэта не крывадушша з майго боку. А што я хачу сказаць... У маладосці, калі мне трэба было ісці касіць у чатыры ці пяць гадзін раніцы, а я ўставаў на дзве гадзіны раней, каб нешта запісаць, ці калі мне трэба было малаціць ісці цэпам ноччу і таксама перад тым, ці пасля таго, за кошт сну і адпачынку, працаваць над рукапісам,— вось тады я меў права называць сябе народным, таму што я сядзеў у народзе, пра народ пісаў. Калі ўжо пакарыстацца гэтым акрэсленнем, што дайце мне пункт апоры і я скрану з месца зямлю, дык мой пункт апоры на тым нізе, дзе поле роднае і дзе людзі, якія на ім працуюць. Такое адчуванне ў мяне, дзякуй Богу, ёсць заўсёды. Я люблю сустракацца і гаварыць з простымі людзьмі. Дарэчы, яны і бываюць вельмі і вельмі няпростымі. І такое спалучэнне ў грамадстве, відаць, заўсёды будзе. З аднаго боку, дзесьці наверсе будуць вялікія розумы — эрудыты, спецыялісты, а ўнізе — тыя, у каго невялікая асвета або зусім яе няма, але яны — носьбіты народнай мудрасці ў сэнсе культуры паводзін, чалавекалюбства, інтэлігентнасці. Я ўжо не гавару пра вобразнасць, пра сілу, меткасць слова народнага. У мяне ёсць адчуванне яго — я заўсёды любіў бачыць і слухаць. Калі гавару з людзьмі — ніколі пры іх не запісваю, каб не палохаць, а запамінаю і тады запісваю. Потым яно нікуды ўжо не дзенецца. Калі гэта нешта вострае — зразу запамінаеш. Такім чынам ідзе бесперапынная работа над словам, над вобразам.

**— Калі Вы пачалі весці запісы?**

— З гадоў пятнаццаці. За шэсцьдзесят гадоў у мяне набралася цэлая бібліятэчка запісных кніжак, адкуль чэрпаю матэрыял для якіхсьці сваіх літаратурных прац. Мае дзённікавыя запісы — не фактаграфія жыцця, без аналізу і асэнсавання, а ўсё тое, чаму нельга даць загінуць у рацэ часу, што варта ўвагі. Я прытрымліваюся тут пуцяводнай для сябе думкі Льва Талстога: "Всё, что поражает душу и сердце, надо записывать". Ужо зусім бездапаможны і нямоглы Кандрат Крапіва, калі ляжаў са мной у бальніцы, пры ўсёй сваёй нешматслоўнасці сказаў: "Зайздрошчу Вам, што Вы ўсё жыццё запісвалі. Цяпер я дажыў да такога моманту, што ўжо не ўспомніш нічога". Гэта запісванне прыемнае для самога сябе. Часамі бярэш і чытаеш тое, пра што даўно забыўся, ну, грунтоўна. Як зусім новае. Гэта як шчасце, як дар чалавеку,— самога сябе ўбачыць у мінулым.

**— Вы сказалі, што праз чытанне чатырох літаратур прыйшлі да пазнання літаратуры сусветнай. А як здзейсніўся ў ёй Ваш уласны творчы пачатак?**

— Першы мой настаўнік і натхніцель — гэта маці Настасся Іванаўна. Вясковая жанчына, яна заўсёды размаўляла па-беларуску, нават і ў Адэсе, дзе мы пражылі ў бежанстве сем гадоў — з 1915 па 1922 год. Бацька Антон Данілавіч — прафесійны чыгуначнік, ездзіў праваднiком па трасе Адэса — Пецярбург і быў зрусіфікаваным у пэўнай меры. Я ўжо пісаў, што спярша ў мяне было трымканне на трох мовах: па-польску пісаў у школе дзіцячыя вершыкі, прозу пісаў трохі парасійску, трохі па-беларуску. А як пачалося сталенне — перамагло сваё. У мяне ёсць апавяданні, напісаныя ў 15-16-гадовым узросце. Я іх не рызыкнуў друкаваць, пакінуў, як сказаў адзін крытык, "на усмотрение потомков". Такія рэчы, як "Марыля", як "Маленькі", пісаліся ў 19-20 гадоў — ва ўзросце для празаіка таксама невялікім.

**— Ці шчаслівы Ваш пісьменніцкі лёс?**

— Мяркуйце самі. У партызанах я быў у разведцы пры штабе брыгады "Камсамолец", а па сумяшчальніцтву рэдагаваў газету "Сцяг свабоды", якая выходзіла з сатырычным дадаткам "Партызанскае жыгала". Там змяшчаў свае нарысы, замалёўкі, артыкулы. Знайшліся добрыя людзі, ацанілі тое, што я рабіў, і адаслалі мае рукапісы за лінію фронта на адрас: "Масква. Саюз пісьменнікаў, Максіму Танку". Завёз іх туды Зямцоў, карэспандэнт "Праўды". Такім чынам, калі я пасля ўдзелу ў партызанскім парадзе ў Менску зайшоў з вядомым тады пісьменнікам Грышам Смолярам у Саюз пісьменнікаў, то аказалася, што мой рукапіс ужо прачыталі Танк, Куляшоў, Лынькоў, Лужанін. Апошнім чытаў яго Чорны, які неўзабаве памёр, і мне рукапіс вярнула яго жонка. На падставе таго рукапісу пазней быў зроблены цыкл апавяданняў "Ты — мой апошні друг" і раман "Птушкі і гнёзды". Некаторыя апавяданні з яго, напісаныя яшчэ да вайны, увайшлі ў кнігу "Ад сяўбы да жніва".

Я ўдзячны Крапіве за прадмову і рэдагаванне маёй першай кнігі "Апавяданні" (1946). Яго падтрымка для мяне мела вялікае значэнне, паколькі тады, у сорак шостым, мне не давалі друкавацца. І калі хвалілі Кандрата Кандратавіча, то я перш за ўсё ўспамінаў тое, што ён зрабіў для мяне,— такое не забываецца. Сяброў у шчасці бывае многа, але вось калі цябе чалавек у горы падтрымае... Культурай дружбы я гэта называю. Другая падзяка ад мяне Міхасю Лынькову — на той час старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі, які хадзіў бараніць мяне ў ЦК. Тады пра мае апавяданні можна было пачуць такое: "нацдэмаўскія расказікі", а пра раман "Граніца", што гэта "дастаеўшчына".

**— А чаму Вас, былога партызана, патрэбна было бараніць?**

— Бачыце, я канчаў вайну савецкім партызанам, а пачынаў яе польскім жаўнерам на ўзбярэжжы Балтыйскага мора, дзе ў баях трапіў у палон. А якое ў нас было стаўленне пасля вайны да людзей, што паспыталі фашысцкі палон, самі ведаеце. Вакол маіх уцёкаў з палону ўзводзіўся паклёп, таму Сталінская прэмія за кнігу "У Забалоцці днее" была для мяне вялікай нечаканасцю, а для тых, хто мяне, прабачце, абрэхваў,— яшчэ большай. Для мяне гэта ўзнагарода мела значэнне выратавальнае. Нездарма мой сардэчны друг Караткевіч так пісаў: "Я гэту аповесць люблю за тое, што яна мяне дапамагла". Я быў шчыры, калі пісаў "У Забалоцці днее", але я быў абмежаваны сваёй мясцовасцю. У нас калектывізацыя спакойна праходзіла: сабралі сход і рабілі калгас. Не было класавых баёў. Хто быў супраць, той нейкім чынам паказаў сябе пад час акупацыі і пасля адступу з немцамі. Праз два гады выйшла мая другая аповесць "На Быстранцы". Там ужо якаясьці крытыка ўлады была. У чатырохтомнік я сваю прэміраваную

*(Заканчэнне на с.4.)*




*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*

*Францішак Багушэвіч*

**Вучымся**

*Вікторыя ЛЯШУК,*
*кандыдат філалагічных навук*

# Стрыжань

## Факт і ўражанне: Пра лён у газеце

*Газета — адзін з найбольш тыповых сродкаў масавай інфармацыі ды прапаганды. Тут масавым аказваецца і адрасат, і аўтар.*

**М.М.Кожына.**

Працягваючы думку расійскага стыліста, цытаваную ў эпіграфе, адзначым, што і газета, і карэспандэнт выказваюцца ад імя шырокага кола людзей. Такая адзнака газетнай мовы называецца зборнасцю і праяўляецца ў выкарыстанні ў абагульненым значэнні займеннікаў **мы, наш**, дзеяслоўных формаў 1-й і 3-й асобаў. Названая асаблівасць выразна праяўляецца ў графічна вылучаным уступе артыкула Івана Абабуркі "Без паклону няма лёну", надрукаваным у газеце "Мінская праўда" (26.01.95.). У ім уласны вопыт і назіранні аўтара вызначаюцца маштабнасцю, маюць грамадскую значнасць: **Хто з нас, дзяцей вайны, не памятае, як у канцы 50-х — пачатку 60-х гадоў калгасы, саўгасы станавіліся на ногі, пачыналі будавацца, купляць тэхніку менавіта за кошт нашага "беларускага шоўку" — ільну. Колькі жанчын у той час з гонарам называлі сябе: "Я — ільнаводка". Колькі іх атрымалі за сваю самаадданую працу ордэны і медалі... А кіраўнікі гаспадарак у гутарках з журналістамі гаварылі: "Лён — культура прыбытковая".**

Стылёвы эфект масавасці апісаных рэалій, іх заканамернасці (пры пэўнай свядомай ідэалізацыі, для большага кантрасту пры супастаўленні з сучаснасцю) ствараюць вылучальная канструкцыя са значэннем множнасці асобаў **хто з нас**, а таксама ўведзенае прыёмам паўтору спалучэнне са словам **колькі**.

Бясспрэчнай стылёвай рысай цытаванага ўрыўка з'яўляецца яго дакументалізм — дакументальна-фактлагічная дакладнасць. Яна праяўляецца ў арыентаванай на аналіз і абагульненне форме выкладу з пашырэннем на ўзровень сацыяльнай абстракцыі.

Наступная інфармацыя носіць афіцыйны характар, уключае звесткі пра структурныя асаблівасці гаспадарчай галіны, таму перададзена стрыманым, строгім, даволі сухім стылем. У ім кантрастуюць, вылучаюцца і падкрэсліваюцца эмацыйна адзначаныя абазначэнні прадмету гутаркі ("беларускі шоўк", беларускі даўгунец). Маляўнічасць, публіцыстычны запал надае выказванню традыцыйны ў гэтым стылі, устойлівы выраз **вярнуць былую славу: Тэндэнцыю страты таварнай вартасці "беларускага шоўку" спецыялісты аблсельгасхарча і тагачаснага вытворчага аб'яднання па нарыхтоўцы ільну заўважылі даўно. І ўжо тады пачалася работа, скіраваная на тое, каб вярнуць беларускаму даўгунцу яго ранейшую славу. Вытворчае аб'яднанне было пераўтворана ў дзяржаўна-кааператыўнае вытворчае аб'яднанне (ДКВА) "Лён".**

Аналітычны артыкул-агляд набывае важкасць праз аўтарскае ўменне карыстацца эканоміка-статыстычнымі, прафесійнымі звесткамі, звяртацца да меркаванняў спецыялістаў. У такім выпадку стылёва значным становіцца найперш красамоўны факт, якому не патрэбна кідкая форма: Генеральны дырэктар ДКВА "Лён" М.У.Дубіцкі, які выступіў са справаздачай, сказаў, што ёсць гаспадаркі (калгасы "Новае жыццё" Нясвіжскага, "Новае жыццё" Барысаўскага, "Барацьбіт" Вілейскага раёнаў), дзе амаль кожны год атрымліваюць ураджайнасць 10-15 цэнтнераў валакна з гектара. Гэта на ўзроўні бельгійскіх, французскіх, галандскіх ураджаяў. Але з гэтай сыравіны атрымліваецца валакно ў 2-3 разы горшае, чым на Захадзе. У выніку, калі там пераапрацоўшчыкі льносыравіны кладуць у свае кашалькі за тону валакна 2,5 тысячы долараў, то за наша там даюць 800-850 долараў.

Як бачым, выразнасць і пераканаўчасць маюць факты грамадскага гучання, якія патрабуюць гарманічных стылёвых сродкаў, важных для ўспрыняцця праблемы і фармавання грамадскай думкі. Пра некаторыя сродкі выразнасці — наша наступная размова.

**Практычная стылістыка**

# Выказваць і патрабаваць

Для практычных заняткаў звернемся да радкоў з артыкула, аналізаванага ў тэарэтычнай частцы, у рубрыцы "Стрыжань". Яго заключныя абзацы расказваюць пра захады дзяржавы павысіць якасць сыравіны: "Падагульняючы разглядаемую праблему, калегія аблсельгасхарча выказала аднадушнае патрабаванне, каб ДКВА "Лён" ужо сёлета наладзіла ў 3-5 гаспадарках вобласці раздзельную ўборку льну з поўнай механізацыяй усіх аперацый, каб на іх базе можна было правесці вучобу кіраўнікоў і спецыялістаў ільносеючых гаспадарак вобласці <...>."

Напісаны пераважна афіцыйным, стандартным стылем, гэты ўрывак вызначаецца пэўнай грувасткасцю і шматслоўнасцю, таму даволі складаны для ўспрыняцця.

Адмоўна ўплывае на стыль не характэрная беларускай мове дзеепрыметная форма **разглядаемая**, двухсэнсоўная зместам, бо праблема разглядалася калегіяй і даследавалася (адпаведнымі сродкамі публіцыстыкі) аўтарам артыкула. Менавіта з яго асобай суадносяцца словы цытаты **падагульняючы разглядаемую праблему** — лагічнае кампазіцыйнае заключэнне. У граматычнай жа канструкцыі выказвання гэты дзеепрыслоўны зварот звязаны з іншым суб'ектам дзеяння (**калегія аблсельгасхарча**), які прымае рашэнне, а не падагульняе факты.

Стылёва няўдалае спалучэнне **(калегія) выказала аднадушнае патрабаванне**. Катэгарычнасць слова **патрабаванне** (дарэчы, натуральная форма выказвання распарадчай дзяржаўнай структуры) супярэчыць памяркоўнасці і пэўнай разважлівасці, характэрных для стылёвага адцення слова **выказала**. Азначэнне **аднадушнае** ўказвае на магчымасць іншага падыходу да праблемы, што неўласціва для спосабу сумеснага вырашэння дзяржаўных праблем "групай асоб, якая ўтварае адміністрацыйны, дарадчы або распарадчы орган" — менавіта так раскрываецца значэнне слова **калегія** ў ТСБМ.

Для акрэсленых слоў характэрная іншая спалучальнасць: **выказаць аднадушную падтрымку, выказаць аднадушнае меркаванне**. Неабходную катэгарычнасць нясуць іншыя словы: **вырашыць, патрабаваць, загадаць, прыняць пастанову, пастанавіць, прыняць рашэнне**.

Прывядзём адзін з магчымых варыянтаў: Для вырашэння разгледжанай (узнятай, акрэсленай) праблемы калегія аблсельгасхарча загадала, каб ДКВА "Лён" ужо сёлета наладзіла ... .

**З гісторыі красамоўства на Беларусі**

# Як сваіх братоў...

Амаль у адзін час дамоўнымі дзяржавамі былі створаны два дакументы, прысвечаныя далейшаму ўпарадкаванню і ўзгадненню гандлёвага заканадаўства. Гэта рыжскі і полацкі праекты Гандлёвай дамовы Полацка з Рыгай. Іх асновай, як адзначаецца ў тэксце дакументаў, паслужыў "стары закон", па меркаваннях навукоўцаў, адлюстраваны ў граматах Гердзеня ды Ізяслава, ранейшых па часе стварэння дакументах (Дамоўнай грамаце 1229 г.).

Захаваліся звесткі (напрыклад, у рыжскіх расходных кнігах), што для абмеркавання абодвух праектаў у Рыгу прыязджалі полацкія паслы, якія спыняліся ў доме Цідэмана Равенслага.

Спачатку звернемся да больш ранняга па датаванні Рыжскага праекта, пазначанага 17 маем 1405 г. Яго заключныя радкі сведчаць: ***А писано въ лѣто по рожстве божии а и у въ пятое лѣто въ третью неделю перед ишествиемь святого духа.***

Гэты дакумент меншы аб'ёмам, больш абагульнены ў форме выкладу гандлёвых спраў. Агульны тон яго строгі, афіцыйны: ***Мы ратьмане ризькии, скончали*** [дамовіліся] ***есме съ полочане на божью милость надеючесь, што же полочаном всем, немечькымъ купцем ризьким, сдично и право дѣяти в всякоимъ торговем дѣлѣ и торговлею, без всякоя хитрости право чинити на обѣ сторон межи собою.***

Межамі асобных заканадаўчых артыкулаў выступаюць не толькі характэрны аналагічным дакументам злучнік **а**, але і слова **потом**, традыцыйнае ў заходніх канцылярыях. У афармленні юрыдычнага зместу пераважае стылёвы прыём паўтору. Найбольш часта ўжываецца спалучэнне **без всякоя хитрости**. Шырока выкарыстоўваецца грамадская і юрыдычная тэрміналогія: одиночьство [згода], правда [закон], извиниться [правініцца], казнить [пакараць], якой перадаецца імкненне да сваяцкай прыязнасці:

***Потом полочаном стеречи немечьских купцевъ какъ своя братья. И право судити ему, и право деяти во всяком деле без всякоя хитрости. Тако же мы хочем полочаном оу Ризе чинити.***

Гранічна сцісла фармулююцца законы пра ўзважванне, якія пачынаюцца выключна злучнікам **а**:

***А соль весити пудънымъ ременемь по старому закону.***

***А который весъ неправо будеть, ино отослати оу Ригу правити по старому закону...***

***А от веса оузяти по старому закону...***

Вялікую цікавасць выклікае падрабязны пералік юрыдычных асоб, уладных спадароў, якія могуць уплываць на дамоўленасць. У гэтым артыкуле рашуча размежаваны палітычныя і гандлёвыя стасункі: ***Потомь аж бы какое стало нелюбье межи местеря и князя великого Витовта, любо межю бояровъ, любо куньдоревъ*** [уладароў вобласці, горада Лівонскага ордэна], ***любо риделевъ*** [рыцараў, вершнікаў], ***любо дворянинов на обѣ стороне, в тое купьцемъ не оуступатися: купьцеви приехати, отъехати чисто всегды.***

Акрамя цікавых у гістарычна-культурным і моўным аспекце пералічаных найменняў асоб, дакумент змяшчае каларытныя абстрактныя славянскія абазначэнні: ***нелюбье, мешанье*** [сутычка, канфлікт].

Дакумент сведчыць пра выдатнае веданне рыжанамі мовы дамоўнай краіны. У ім, нягледзячы на ўплыў сваіх традыцый, пануе стылёвая гармонія, народны дух.

**Ствараем энцыклапедыю "Новай зямлі"**

*Валянціна ВЫХОТА,*
*кандыдат педагагічных навук*

# Коласавы зернеткі

*(Працяг.)*

*Пад лёгкім ветрыку павевам,—*
*Так гнуцца, гойдаюцца травы,*
*Як пройме ветрык іх ласкавы,*
*І пойдуць **хвалі** травяныя.*

**ХВАЛЯ**, //перан. Пра тое, што сваім рухам, формай нагадвае хвалі, жытнёвыя хвалі (ТСБМ); wellen 2. 5 sich wellen, in Wellen verlaufen, Wellen bilden [weite goldene Ahrenfelder] wellen sich (bewegen sich wellenförmig) unterm Sommerwind (WDG)

**ХВАЛЯВАЦЦА,** 1. // перан. Знаходзіцца ў руху, падобным на хваляванне паверхні вады (ТСБМ).

*Народ калышыцца, **хвалюе**,*
*Бы ў цёмным віры вада тая.*

А цяпер звернемся да нябачных хваляў:

*Міхал ішоў, з ім йшлі і думкі,*
*...............*
*І часта **хваля** абурэння,*
*Глухі пратэст нездавальнення*
*Яго ахваціць і ўскалыша.*

А таксама

*І брала нейкая нудота,*
*І адпадала ўся ахота*
*Зямлю купляць і нават жыць —*
*Такая **хваля** набяжыць.*

**ХВАЛЯ,** // перан. Прыліў або праяўленне якога-н. пачуцця, адчування (ТСБМ). Welle[1], die 1. (übertr.) eine Welle von Ungeduld, Angst überkam ihn (WDG)

*А як надарыцца часамі*
*Яму спаткацца там з казамі,*
*Тады крычаў ён...*
*Такая радасць пашыбала,*
*Так **хвалявала**, захапляла...*

Іншае адценне гэтага пачуцця (хвалявання) падаецца ў раздзеле "Воўк".

*Міхал раптоўна садрыгнуўся,*
*...........*
*Увесь **хвалюецца**, дрыжыць:*
*Ваўчуга з сёл сюды бяжыць.*

**ХВАЛЯВАЦЬ** 2. радасць хвалюе радасць волнует (БРС);

**ВОЛНОВАТЬ** в разн. знач. хваляваць (РБС); волновать 1. перен.

aufregen; in Aufregen versetzen; bewegen; ergreifen (РНС);

aufregen І. 1. <in starke Erregung versetzen> (SW);

Erregung f 1. волнение, возбуждение (GDRW); versetzen j-n in den Himmel [in Entzücken, in Seligkeit] versetzen привести кого-л. в экстаз [в величайший восторг] (GDRW).

Гісторыя слова: "Наша слова" № 51 (263), 1995 г.

*Мікалай КРЫЎКО — беларушчына.*
*Алена ШЧУКА — англійшчына.*

# Слоўнік сінонімаў

1. **ПОЎНЫ** (напоўнены чым-н. да самага верху, да самых берагоў) *Тут можна набраць поўны кораб [суніц],— падумала Аня* (Мележ), **ЦЭЛЫ** *Гэта той самы бярэзнік, дзе летась наш дзядзька, ходзячы па грыбах, напаў на неруш і набрў цэлую сявеньку выдатных баравікоў-бярозавікаў* (Колас). — *Антонімы:* Пусты, парожні.

2. **ПОЎНЫ** (які ўтрымлівае ў сабе ўсё, што ўваходзіць у склад чаго-н., які вызначаецца паўнатой звестак і пад.) *Даць поўны адказ. Такой кароткай прамовы я ніколі не гаварыў. Вось яе і тэзісы і поўны тэкст* (Янкоўскі), **ВЫЧАРПАЛЬНЫ** *З вялікай цікавасцю чытач пазнаёміцца ў канцы даследавання з вычарпальным спісам прааналізаваных дзеясловаў* ("Полымя"). *У граматыцы Лаўрэнція Зізанія ўжо даецца больш або менш сістэматызаваны і вычарпальны аналіз асноўных з'яў фанетыкі і марфалогіі царкоўнаславянскай мовы* (Шакун).

**— Паўната, вычарпальнасць.**

3. **ПОЎНЫ** (які праяўляецца ва ўсёй паўнаце, сіле або ва ўсіх баках чаго-н.) *Няўжо ён не можа знайсці сабе — хай не зусім поўнага, хай палавіннага, але сапраўднага чалавечага шчасця?* (Зарэцкі). *Ідзі рабі да поўнай змогі І скарб увесь лічы сваім* (Колас). *На досвітку, яшчэ ў поўнай цемры, у Будзе чуўся неспакойны рух, то там, то сям прарываліся прыглушаныя галасы людзей, фыркалі коні* (Кудравец), **АБСАЛЮТНЫ** узмацн. *Абсалютная ўпэўненасць у чым-н. Галоўнае для мяне — каб мясцінка нічым не кідалася ў вочы, каб мог тут адчуць сябе сам-насам з прыродай. Каб мог паверыць, што нарэшце застаўся ў абсалютнай адзіноце* (Кірэенка). *Тут, у зборачным цэху, цішыня стаяла абсалютная* (Пярмяк).

4. **ПОЎНЫ** (у меру тоўсты) *На покуце сядзела Змітракова маці, Матруна Адамаўна — жанчына яшчэ маладая, поўная* (Ракітны), **ПАЎНАЦЕЛЫ** *Плячысты, паўнацелы, здаровы, як асілак, Шабета... халоднымі вачыма зірнуў на Грыбкову Адар'ю* (Мележ), **УКОРМЛЕНЫ** *[Сцяпан:] — Дурны ты, хлопец! Дужы, укормлены, а дурны!* (Быкаў), **ПУХЛЫ** (які адрозніваецца акругласцю частак цела, твару) — *Што? Што хацеў? — высунулася з сянец пухлая, бы пампушка, круглатварая жонка* (Калодзежны), **ПУХЛЯВЫ** *Другая [жанчына], пухлявая, прысадзістая, выцірала рогам хусткі чырвоныя слязлівыя вочы, прагна шнырыла імі па быльнягу* (Ракітны), **ПУХЛЯСТЫ** разм. *Прыбег яго начальнік, пухлясты, рыжы ўвесь, з двума наганамі ў руках* (Масарэнка), **ПУХНАТЫ** *Па-першае, яна [дзяўчына] не мурлатая, не пухнатая, з чаго звычайна пачынаецца гіпертанія* (Я.Ермаловіч), **ПЫШНЫ** (пераважна пра жанчыну: які вызначаецца некалькі залішняй, але прываблівай паўнатой) *Дзяўчына прыносіць вячэру, але Настася — так завуць пышную гаспадыню — адсоўвае ўсё ўбок* (Лось), **ПУЛЬХНЫ** *Малады Сурвіла — пульхны, выглянсаваны хлопец* (Чорны), **ПУЛЬХЛЫ** *Міма Васілька праходзіла нямецкая сямейка: суровы, вусаты бацька, тоўстая матка, пульхлая светлагаловая дачка* (Маўр), **ПУЛЬХНАТЫ** разм. *У калідор бальніцы ўвайшла жанчына з поўным кошыкам, ведучы за ручку пульхнаценькую дзяўчынку* (Скрыпка), **ГЛАДКІ** разм. жартаўліва-іранічнае *Святло выхапіла з цемры круглага гладкага чалавека, які курчыўся на падлозе і стагнаў ад болю* (Дайліда), **МАЖНЫ** (рослы і паўнацелы) *Упусціўшы мужчын, мажная, раздабрэлая буфетчыца зашчапіла за імі дзверы, адышлася за стойку* (Навуменка), **САМАВІТЫ** (паўнацелы і моцнага целаскладу) *Я ўглядаюся ў партрэт Пятра Мацвеевіча. Плячысты, самавіты асілак з пышнай барадой* (Мехаў). *Асмалоўскі, поўны, самавіты, ужо ў гадах чалавек — жвава падхапіўся* ("Беларусь"). — *Параўнайце:* 1. Тоўсты.

**Поўны.** Асноўным англійскім адпаведнікам да бел. **поўны** ва ўсіх яго значэннях з'яўляецца прыметнік **full** (дарэчы, аднаго і таго ж індаеўрапейскага паходжання). Акрамя full, бел. **поўны 2** і **поўны 3** маюць яшчэ і такія англ. эквіваленты, як **complete**, **comprehensive** (абодва іншамоўныя пазычанні). Што да **поўны 4** і яго сінонімаў, то гэты сэнс у англійшчыне можна таксама перадаць некалькімі прыметнікамі: **fat**, **hefty** (які больш за другіх набліжаны да бел. **мажны**) і **plump** (які, як і бел. **пышны**, азначае прываблівую паўнату).

**ПОЎНЯ** (фаза Месяца, калі відзён увесь яго дыск) *Якраз была поўня, ночы стаялі відныя, хоць па-восеньскаму свежыя, але ціхія* (Шахавец), **ПОЎНІК** *З-за поплава, над якім падымаўся туман, зачырванеў поўнік* (Даніленка), **ПОЎНЫ МЕСЯЦ** *У чыстым небе, трохі воддаль ад воблачка, ужо зусім неружовага, стаіць поўны месяц* (Брыль). *На цёмна-сінім, амаль чорным небе ярка свяціў поўны месяц* (В.Вольскі).

**Поўня.** У англійскай мове ёсць толькі складанае слова **full moon**, якое па сваёй структуры дакладна адпавядае бел. **поўны месяц**.

**ПОЎСЦЬ** (валасяное покрыва жывёл; валасы на твары, целе чалавека) *Сабака забурчаў мацней, наставіў на хібе поўсць* (Янкоўскі). *І тады мы бачылі яго дужыя, з уздутымі венамі і густой шэрай поўсцю рукі* (Радкевіч), **ШЭРСЦЬ** *Вепр ляжаў на баку, па ягонай мокрай бурай шэрсці поўз дымок* (Самуйлёнак). — *Дык што ж гэта?.. — закратаў мяккімі, даўгімі вусамі старшыня і пацёр шэрсць даўно нябрытай барады* (Нікановіч), **ВОЎНА** (валасяное покрыва авечак) *Баранок усхапіўся з прызбы... схапіў барана за воўну* (Крапіва).

